# Пашырым падпіску на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“ і часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“.

**Кожны раён павінен зараз-жа разгарнуць належную работу за выкананьне вызначаных кантрольных заданьняў на газэты і часопісі.**

| Раён | Газэта „Колгасьнік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ | Раён | Газэта „Колгасьнік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ |
|---|---|---|---|---|---|
| Азарыцкі | 600 | 40 | Лельчыцкі | 550 | 40 |
| Аршанскі | 1500 | 110 | Лёзьнянскі | 950 | 65 |
| Асіповіцкі | 600 | 60 | Лепельскі | 2500 | 85 |
| Асьвейскі | 675 | 52 | Лоеўскі | 1150 | 65 |
| Бабруйскі | 1000 | 100 | Любаньскі | 800 | 40 |
| Багушэўскі | 800 | 80 | Ляднянскі | 450 | 53 |
| Барысаўскі | 1000 | 80 | Магілеўскі | 1600 | 135 |
| Бешанковіцкі | 1000 | 92 | Мазырскі | 1150 | 90 |
| Брагінскі | 1500 | 80 | Межанскі | 600 | 55 |
| Быхаўскі | 1000 | 70 | Менскі | 2250 | 103 |
| Буда-Кашалёскі | 900 | 40 | Мсьціслаўскі | 1900 | 130 |
| Бягомльскі | 1500 | 120 | Нараўлянскі | 900 | 63 |
| Бялыніцкі | 1200 | 90 | Парыцкі | 1000 | 80 |
| Бярэзінскі | 950 | 70 | Плешчаніцкі | 1250 | 90 |
| Веткаўскі | 1600 | 65 | Полацкі | 1750 | 105 |
| Ветрынскі | 750 | 45 | Прапойскі | 1250 | 70 |
| Валынецкі | 1200 | 80 | Пухавіцкі | 1150 | 85 |
| Віцебскі | 1500 | 90 | Пятрыкоўскі | 1100 | 65 |
| Вульскі | 1200 | 85 | Рагачоўскі | 1300 | 90 |
| Вузьдзенскі | 600 | 60 | Расьнянскі | 825 | 60 |
| Вулацкі | 1300 | 80 | Расонскі | 950 | 55 |
| Высочанскі | 1150 | 60 | Рэчыцкі | 1100 | 70 |
| Гарадоцкі | 800 | 55 | Сененскі | 1900 | 140 |
| Горацкі | 1500 | 105 | Сіроцінскі | 1500 | 100 |
| Гомельскі | 1350 | 45 | Слуцкі | 1650 | 95 |
| Глускі | 1000 | 70 | Смалявіцкі | 900 | 65 |
| Грэскі | 1000 | 72 | Старобінскі | 900 | 55 |
| Дрыбінскі | 850 | 66 | Сураскі | 900 | 68 |
| Дрысенскі | 700 | 68 | Сьвіслацкі | 750 | 57 |
| Дубровенскі | 1050 | 90 | Сьмілавіцкі | 700 | 52 |
| Жлобінскі | 1000 | 55 | Стара-Дароскі | 800 | 60 |
| Журавіцкі | 750 | 42 | Талачынскі | 1500 | 110 |
| Жыткавіцкі | 750 | 55 | Тураўскі | 850 | 70 |
| Заслаўскі | 900 | 40 | Уваравіцкі | 850 | 30 |
| Камарынскі | 900 | 40 | Холопеніцкі | 1000 | 95 |
| Капаткевіцкі | 500 | 40 | Хоцімскі | 1500 | 90 |
| Каралінскі | 1000 | 70 | Хойніцкі | 1100 | 50 |
| Кармянскі | 1250 | 100 | Церахоўскі | 1500 | 60 |
| Касьцюковіцкі | 3150 | 155 | Чачэрскі | 750 | 30 |
| Клімавіцкі | 3500 | 85 | Чарэйскі | 1000 | 110 |
| Клічаўскі | 700 | 65 | Чашніцкі | 1000 | 75 |
| Копыльскі | 1100 | 95 | Чавускі | 1300 | 105 |
| Копыскі | 1200 | 100 | Чачэвіцкі | 350 | 30 |
| Коханаўскі | 1250 | 120 | Чырвонапольскі | 950 | 90 |
| Койданаўскі | 2000 | 95 | Чэрвенскі | 750 | 53 |
| Круглянскі | 1300 | 95 | Чырвона-Слабодз. | 800 | 35 |
| Крупскі | 600 | 65 | Чэрыкаўскі | 1600 | 92 |
| Крычаўскі | 1500 | 85 | Шклоўскі | 1500 | 100 |
| Лагойскі | 1150 | 60 | Юравіцкі | 600 | 35 |

**Калгасцэнтр БССР**

## ЧЫТАЧЫ!

Апошні тэрмін здачы падпіскі на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“, на часопісы „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“, „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ і „КААПЭРАЦЫЯ БССР“ 23 чысла кожнага месяцу.

Падпіску здавайце ў бліжэйшыя паштовыя аддзяленьні альбо лістаносцу. Сваячасовая здача падпіскі гарантуе акуратную дастаўку.

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60

№ 12—ЧЭРВЕНЬ—1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

# Па-ўдарнаму рэалізуем пазыку

**Ня менш як трохтыднёвы даход кожнага калгасьніка на пазыку імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі.**

**Забясьпечым фінансаваньне „518“ і „1040“!**

## Кожнаму калгасьніку—аблігацыю пазыкі

На аснове правільнага і рашучага правядзеньня генэральнай лініі партыі пасьпяхова будуецца сацыялізм у нашай краіне.

Растуць новыя заводы, фабрыкі, электрастанцыі. На базе сацыялістычнай прамысловасьці — шпаркім тэмпам ідзе перабудова сельскай гаспадаркі. Дробныя малатаварныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі аб'ядноўваюцца ў буйныя высокатаварныя калектыўныя гаспадаркі. Процант калектывізацыі па СССР дасягнуў ужо 53 процантаў, у нас у БССР калектывівана звыш 34 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. „Савецкі саюз з краіны дробна-сялянскай гаспадаркі і адсталай земляробчай тэхнікі ператвараецца ў дзяржаву буйнай калектыўнай гаспадаркі і передавой земляробчай тэхнікі“ (Сталін).

1931 год зьяўляецца рашаючым у справе выкананьня пяцігадовага пляну будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне. Трэці рашаючы год пяцігодкі завяршае пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі.

Шпаркія тэмпы патрабуюць усё новых і новых укладаньняў. Неабходнасьць фінансаваньня сацыялістычнай будоўлі добра ўсьвядомілі рабочыя, калгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы аднаасобнікаў.

Рабочыя масы і калгасьнікі высунулі патрабаваньні аб выпуску новай пазыкі імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Гэтыя патрабаваньні су-

стрэлі гарачы водгук у шырокіх гушчах працоўных мас СССР.

Ідучы насустрач патрабаваньням працоўных, Савецкі ўрад выпусьціў пазыку імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Кантрольныя лічбы па гэтай пазыцы вызначаны ў суме 1 мільярд 600 мільёнаў руб. Разьмер пазыкі адпавядае тым патрабаваньням, якія прад'яўляе грандыёзнае сацыялістычнае будаўніцтва ў трэцім рашаючым годзе, забясьпечвае фінансаваньне пабудовы ў гэтым годзе 518 новых заводаў і 1040 машына-трактарных станцый.

Кантрольная лічба рэалізацыі пазыкі па БССР вызначана ў 42 мільёны 100 тысяч рублёў, для вёскі гэтая лічба выражаецца ў 16 мільёнаў.

Мы маем усе ўмовы ня толькі для выкананьня, але і перавыкананьня вызначанай для рэалізацыі на вёсцы сумы па пазыцы. Звыш 34 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—падстава гэтаму, бо калгасы—гэта тая апора, пры дапамозе якой мы зможам уцягнуць у рэалізацыю пазыкі ўсё сялянства.

Рэалізацыя пазыкі—вялікая гаспадарча-палітычная кампанія. Яна павінна праводзіцца на аснове самай шырокай агітацыйна-масавай работы сярод калгасьнікаў і беднякоў і серaднякоў-аднаасобнікаў, на аснове поўнай добраахвотнасьці.

Пытаньне аб рэалізацыі пазыкі трэба шырока абгаварыць на камісіі садзейнічаньня ў калгасах і сходах калгасьнікаў. Шырока разгарнуць соцспаборніцтва па падпісцы на пазыку. Арганізаваць прэміяваньне лепшых камсодаў за найбольш пасьпяховае правядзеньне гэтай кампаніі.

Соцспаборніцтва, ударніцтва, сустрэчныя пляны, грамадзкі буксір, дапамога адстаючым—зьяўляюцца асноўнымі мэтадамі ў правядзеньні гэтай кампаніі. Кожны калгаснік, павінен зьявіцца застрэльшчыкам у рэалізацыі пазыкі на вёсцы.

Кожны калгасьнік павінен памятаць, што поўнай рэалізацыяй пазыкі мы забясьпечваем пабудову 518 новых заводаў і 1040 МТС у гэтым годзе і гэтым самым забясьпечваем яшчэ больш шпаркія тэмпы суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Лёзунгамі па рэалізацыі пазыкі павінны быць:

**Ня менш як 3-х тыднёвы даход калгасьніка і аднаасобніка—на пазыку трэцяга рашаючага году!**

**За перавыкананьне вызначанай для рэалізацыі на вёсцы сумы пазыкі!**

## Поўнай і хуткай рэалізацыяй пазыкі нанясём удар па клясаваму ворагу—кулаку і яго агэнтуры—праціўніках ударных бальшавіцкіх тэмпаў—правых і „левых“ апартуністых.

# Зьдзельшчына РАШАЕ

## посьпех праполачнай і ўборачнай кампаніі

**Кожнаму калгасьніку павінна быць запісана ў працоўную кніжку ня толькі колькасьць, але і якасьць выкананай ім работы**

## За правільны ўлік працы

**Няма вучоту—няма буйнай гаспадаркі**

„Калі мы жадаем мець буйныя калгасы, калі мы жадаем, каб гаспадарка калгасу сапраўды расла дзень у дзень, то бяз вучоту мы гэтага не дасягнем" (Якаўлеў).

Бяз вучоту зьніжаецца продукцыйнасьць працы, працоўная дысцыпліна, у калгасьніка няма зацікаўленасьці больш і лепш працаваць. Такія зьявішчы скарыстоўвае клясавы вораг—кулак у барацьбе з калгасамі. Калгасы павінны ўзяцца за дасканалы і правільны вучот гаспадаркі. Гэтым на справе праводзіцца барацьба з гультаямі,разгільдзяямі, з усімі тымі, якія імкнуцца знутры падарваць калгасную вытворчасьць.

Як-жа практычна організаваць вучот працы?

**Працадзень—аснова вучоту**

Адзінкай вучоту працы калгасьнікаў павінен быць працадзень, які ўключае ў сябе поўную колькасьць і якасьць зробленай работы. Таму па працоўных адзінках і павінна ўтварацца разьмеркаваньне даходаў гаспадарчага году.

Формай вучоту затраты працы зьяўляецца нарад, які ёсьць і дакумант вучоту выкананьня вытворчага пляну для праўленьня і з якога ўпісваюцца ў працоўную кніжку кожнага калгасьніка выпрацаваныя ім працадні.

Своечасова, перад пачаткам кожнай работы брыгады праўленьне дае ёй нарад. Каб брыгада лепш падрыхтавалася да работы, паказанай у нарадзе, трэба яго выдаваць на рукі брыгадзе загадзя да пачатку работ. У нарадзе паказваюцца месца работы, час яе выкананьня, аб'ём і характар, колькасьць інвэнтара, цягавай і працоўнай сілы, вызначанай брыгадзе, і колькі брыгада за паказаную работу пры яе выкананьні атрымае працадзён.

Пры складаньні нарада, праўленьне павінна мець пад рукамі нормы выпрацоўкі і іх расцэнку ў працаднёх, на падставе якіх вытвараюцца ўсе разьлікі ў нарадзе. Праўленьне піша ў нарадзе тое, што даручаецца выканаць брыгадзе (блянкі нарадаў маюцца ва ўсіх калгасах).

Потым з гэтага вучоту работы паасобных калгасьнікаў гэтыя-ж паказчыкі ня менш як праз кожныя 5 дзён заносяцца ў працоўную кніжку кожнага калгасьніка. Для таго, каб кожны калгасьнік ведаў колькі ён сёньня, ці ўчора зрабіў, трэба вывешваць сьпіскі на відным месцы, куды за кожны дзень кожнаму

калгасьніку ўпісваюць паказчыкі яго працы. Па сканчэньні ўсіх работ па дадзенаму нараду выпрацаваную колькасьць з карткі ўпісваюць у працоўную кніжку. Такім давядзеньнем штодзеннай выпрацоўкі да кожнага калгасьніка паднімаецца ў іх ініцыятыва не адставаць ад таварышоў, зрабіць сёньня больш чым учора, ініцыятыва да большага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Пры выкананьні работ нарад здаецца ў канцэлярыю, дзе рахункавод разносіць затраты працы ў ведамасьць выкананьня вытворчага пляну (формы 15 і 18) і ўпісвае ў паіменны сьпіс, які вывешваецца на сьценцы ў праўленьні, колькі і кім за гэты месяц прапрацавана і выпрацавана працадзён.

У нарадзе ў час прыёму ад брыгадзіра загадчык галіной гаспадаркі ўлічвае і якасьць работы, якая адзначаецца ў апошняй графе нараду. У тым выпадку, калі якасьць выконваемай брыгадаю работы добрая, тэрмін выкананьня кароткі, нормы выпрацоўкі высокія, трэба за такія паказчыкі прэміраваць работнікаў брыгады.

Прэміраваньне стымуліруе калгасьнікаў да большай вытворчасьці калектыўнай работы.

Прэміраваньне можа выражацца ў налічэньні выпрацаваных працадзён з адпаведным процантам надбаўкі і інш.

У выпадку-ж дрэннай працы, як брыгадзе, так і групе і паасобным калгасьнікам (нізкая якасьць, нізкая працдысцыпліна, нізкія нормы выпрацоўкі і інш.)— калгас выносіць ганьбаваньне на сходах, вытворчых нарадах, у насьценгазэце, на чорную дошку, зьніжае расцэнку ў працаднёх і г. д. Калі такія калгасьнікі не спраўляюцца, агульны сход можа пастанавіць браць з іх штрафы, а калі ён сапраўды гультай, не жадае працаваць і затрымлівае, шкодзіць рабоце — выключаць з калгасу.

Калгас павінен практыкаваць грамадзкі буксір, як мэтод падцягваньня адстаючых.



Ударнік калгасу „Праца“ (Смалявіцкі раён) Алесь Войтка.

Тыя ўдарныя брыгады і калгасьнікі, якія скончаць сваю работу да тэрміну, перакідваюцца на дапамогу адстаючым. А за тое, што ўдарнікі канчаюць раней тэрміну сваю работу і ў той-жа час дапамагаюць—падцягваюць адстаючых, ім павялічваецца расцэнка работы ў працаднёх за лік зьніжэньня ад 10 да 25 проц. ацэнкі працы адстаючых брыгад.

**Ф. Дзьмітрыеў.**

## „Зьдзельшчына неажыцьцявіма без сваячасовага ўліку колькасьці выпрацаваных кожным калгасьнікам працадзён“

**(З пастановы чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б).**

# Безадкладна выправіць недахопы

Пасьпяховасьць выкананьня плянаў па ўборцы ўраджаю ў калектыўных гаспадарках будзе цалкам залежыць ад таго, як будзе пастаўлена арганізацыя працы ў калгасах пры выкананьні ўсіх відаў уборачных работ.

Правільная арганізацыя працы на падставе зьдзельшчыны, шырокае ўжываньне сацыялістычных мэтадаў працы— сацспаборніцтва і ўдарніцтва, грамадзкі буксір—забясьпечаць пасьпяховае правядзеньне ўборкі ўраджаю ў калгасах.

Нарада старшынь і рахункаводаў калгасаў Лагойскага раёну па арганізацыі працы, якая адбылася 19 чэрвеня гэтага году, выявіла, што калгасы Лагойшчыны да гэтага часу не зрабілі нават належнага пералому ў адносінах пераходу на зьдзельшчыну. З 64 калгасаў, якія прысутнічалі на нарадзе, толькі 8 калгасаў перайшлі на зьдзельшчыну, што складае 12,5 проц. к агульнаму ліку калектыўных гаспадарак. Зусім ня ўжываліся сацыялістычныя мэтады працы, як сацспаборніцтва, ударніцтва ў час веснавой сяўбы.

Асобныя калгасы Лагойскага раёну не дастаткова рашуча вядуць барацьбу з клясавым ворагам, які імкнецца падарваць работу па пераходу на зьдзельшчыну, уліку працы ў працаднёх, сацыялістычных мэтадаў працы.

53 калгасы быццам бы і перайшлі на зьдзельшчыну, але фармальна толькі на паперы. Маюцца асобныя факты ўраўнілаўкі, падзёншчыны, якія перашкаджаюць правільнай арганізацыі працы ў калгасах.

Асноўнымі прычынамі няправільнай арганізацыі працы ў калгасах гэтага раёну,—гэта недастатковае кіраўніцтва з боку райкалгассаюзу і мясцовых партячэек. У райкалгассаюзе маюцца два інструктары па арганізацыі працы, але яны мала чаго зрабілі ў гэтым напрамку. Наогул з боку райкалгассаюзу няма апэрацыйнасьці ў кіраўніцтве калгасамі. Ня правільна пастаўлены ўлік працы, няма сталых норм выпрацаўкі (у 56 калгасах), ня ўлічваецца праца па нарадах, не заносяцца працадні ў працоўную кніжку калгасьніка. Слабае вылучэнства калгасьнікаў-ударнікаў на кіруючую работу.

Нарада старшынь і рахункаводаў Лагойшчыны павінна зрабіць рашучы пералом у пераходзе калгасаў на зьдзель-



Конныя граблі падрыхтаваны да ўборкі. Камуна „Бальшавік" Самахвалавіцкі раён.



**Сход калгасьнікаў: абгаварваюць пытаньне аб пераходзе на зьдзельшчыну.**

шчыну па ўсіх відах работ і правільнага ўліку працы ў працаднёх. Прапрацованыя на нарадзе пытаньні аб уліку працы ў працаднёх, складаньне нарадаў, устанаўленьне правільных і сталых норм выпрацоўкі—дапамогуць калгасным работнікам перабудаваць сваю работу ў адпаведнасьці тых задач, якія стаяць у час уборкі ўраджаю.

Нарада адзначыла, што для правядзеньня зьдзельшчыны і правільнага ўліку ў працаднёх у калгасах Лагойшчыны маюцца ўсе магчымасьці. На падставе гэтага нарада пастанавіла: да 1 ліпеня ўсім калгасам неадкладна перайсьці на зьдзельшчыну па ўсіх відах работ. Да ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі ва ўсіх калгасах па ўсіх работах усганавіць нормы выпрацоўкі, скарыстоўваючы вопыт лепшых калгасаў, як свайго, так і суседніх раёнаў. Забараніць весьці ў калгасах рахункаводзтва па двайной сыстэме, якая адмоўна адбіваецца на вучоце працы. Весьці вучот па новых формах, якія выдадзены Белкалгасцэнтрам. Нарад даваць брыгадзе за два тыдні да пачатку работ з мэтай прапрацоўкі яго ў брыгадах. Абавязкова ўлічваць колькасьць і якасьць выкананай кожным калгасьнікам работы. Ня больш, як праз кожныя 5 дзён брыгадзір павінен з нараду пераводзіць у працоўную кніжку кожнага калгасьніка выпрацаваныя ім працадні.

Па сканчэньні работ, па нараду ўтвараць прыёмку работ ад брыгады, улічваючы пры гэтым якасьць работы, тэрмін яе выкананьня і нормы выпрацоўкі.

За лепшую работу брыгад і паасобных калгасьнікаў прэміраваць (павышаючы расцэнку на 10—25 проц.), а за дрэнную работу зьніжаць расцэнку працы ў працаднёх ад 10—25 проц.

Ніводнага калгасу бяз зьдзельшчыны, бяз уліку працы ў працаднёх! За сацыялістычныя мэтады ў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў час уборкі ўраджаю!

Такія нарады, якая праведзена ў Лагойскім раёне, павінны быць праведзены ва ўсіх раёнах. Трэба зараз-жа выправіць маючыяся недахопы ў арганізацыі працы ў калгасах з тым, каб уборку ўраджаю выканаць у тэрмін і бяз ніякіх страт.

**Новік Р.**

# Зьдзельшчына апраўдала сябе

*(Шклоўскі раён)*

Шклоўскі раён мае 93 калгасы, у іх 2893 гаспадаркі, што складае 31,3 проц. калектывізацыі бядняцка - серадняцкіх гаспадарак.

80 калгасаў пераведзены на зьдзельшчыну, якая падвысіла вытворчасьць працы і ўцягнула новыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў калгасы. Недахопам на сёнешні дзень зьяўляецца тое, што праўленьне поўнасьцю не пераключылася на добры вучот зьдзельных работ. Старшыня калгасу „Чырвоны кастрычнік" гаворыць:

Я добра ня ведаю, як весьці вучот работы, таму робім па-старому.

У пераходзе на зьдзельшчыну і лепшым вучотам працы можа пахваліцца калгас імя Леніна, Рыжкоўскага сельсавету, які ўсе работы праводзіць зьдзельна.

Вось некалькі фактаў, якія гавораць аб тым, што толькі зьдзельнымі работамі магчыма ўзьняць працу на належную вышыню. Да пераходу на зьдзельшчыну ў калгасе імя Леніна стада буйнай рагатай жывёлы ў 85 галоў даглядала 10 чалавек, а зараз спраўляецца з гэтай работай 6 чалавек. Па вывазцы гною на 1 *га* работала раней 15 чалавек, а з увядзеньнем зьдзельшчыны лёгка спраўляецца 10 чалавек і менш затрачваюць на гэтую работу часу.



Падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю ў калгасе „Чырвоны партызан" Менскага раёну.

## Нормы выпрацоўкі ў калгасе імя Леніна

| НАЗВА РАБОТ | Коняй | Людзей | Норма выпрацоўкі 1 рабочага ў 10 гадзінны дзень | Якая група | Расцэнка ў днях |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Ворыва 1-лямешным плугам па лёгкай глебе . | 1 | 1 | 0,4 | сярэд. | 1 |
| 2. Ворыва двухлямешным, або адналямешным паркай . . . . | 2 | 1 | 0,75 | „ | 1 |
| 3. Баранаваньне 3-зьвеньн. бараной „Зіг-заг“ у 4 сьляды . . . . | 2 | 1 | 4,2 | „ | 1 |
| 4. Сяўба насеньня ў ручную . . . | — | 1 | 25 | кваліфік. | 1,5 |
| 5. Сеялкай раськідной . . . . | 1 | 1 | 6 | „ | 1,5 |
| 6. Сеялкай радавой . . . . | 2 | 1 | 2 | „ | 1,5 |
| 7. Пасадка бульбы. . . . . | — | 1 | 0,12 | сярэд. | 1,7 |
| 8. Жніво ў ручную . . . . | — | 1 | 0,10 | цяжкая | 1,25 |
| 9. Жнейка . . . . . . . | 2 | 1 | 3 | кваліф. | 1,5 |
| 10. Уборка пасьля машыны. . . . | — | 1 | 0,16 | сярэд. | 1 |
| 11. Возка гною на адлегласьці 1 *км* . . | 1 | 1 | 8 воз. | цяжкая | 1,25 |
| 12. Разьбіўка гною . . . . . . | — | 1 | 0,35 | сярэд. | 1 |
| 13. Пасадка капусты, гуркоў пад маркер . . | — | 1 | 1,10 | сярэд. | 1 |
| 14. Касіць на заліўным лугу . . . | — | 1 | 0,20 | цяжкая | 1,25 |
| 15. Касіць сухадольны . . . . | — | 1 | 0,33 | „ | 1,25 |
| 16. Уход за буйнай жывёлай . . . | — | 1 | 18 гал. | „ | 1,25 |
| 17. Даеньне з прамываньнем вымя 3 разы ў дзень ад 1-5 літр. . . . . . | — | 1 | 15 ч. | „ | 1,25 |
| 18. Паеньне цялят з пускам на прагулку . | — | 1 | 20 ч. | сярэд. | 1 |
| 19. Догляд за сьвіньнямі з падсьцілкай і чысткай станкоў . . . . | — | 1 | 20 ч. | цяжкая | 1,25 |
| 20. Догляд за авечкамі . . . . | — | 1 | 100 шт. | „ | 1,25 |
| 21. Стрыжка авец . . . . . | — | 1 | 13 ч. | — | 1,25 |

Толькі, дзякуючы пераходу на зьдзельшчыну, калгас імя Леніна з посьпехам выканаў пляны веснавой сяўбы да 1-га чэрвеня і распачаў падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю.

Г. Шумілаў.

**„... заспакоіцца на посьпехах калектывізацыі і недааценіць усёй сур‘ёзнасьці задач у галіне ўмацаваньня калгасаў і ўборкі ўраджаю, значыла-б нанесьці аграмадную шкоду справе калектывізацыі“**

**(З пастановы пленуму ЦК УсеКП(б).**

# Раўняцца па перадавым!

Калгас „Зара“, Горацкага раёну, скончыў сяўбу 30 мая—на 10 дзён раней вызначанага тэрміну, з перавыкананьнем пасеўнага пляну. Плян сяўбы яравых прадугледжваў 167 *га* засеву, а засеяна 185,5 *га*. Па засеву тэхнічных культур таксама перавыканаў намечаны плян, лёну было намечана 54 *га*—засеяна 60, канапель—4,5 *га*—засеяна 5 *га*.

Па сканчэньні сяўбы калгас „Зара“ арганізаваў дапамогу суседнім калгасам і саўгасу рабочай сілай і гатунковым насеньнем.

У калгасе ўсе віды работ пераведзены на зьдзельшчыну. Улік працы праводзіцца ў працаднёх. Шырока разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

За пасьпяховае выкананьне сяўбы, перавыкананьне пляну па тэхнічым культурам і дапамогу суседнім калгасам і саўгасу,—Калгасцэнтр БССР прэміраваў калгас „Зара“ жняяркай. **С.**

# Змагаемся за суцэльную калектывізацыю

*(Глускі раён)*

Два гады толькі нашаму колгасу. А колькі дасягненьняў!

Калі ў дзень арганізацыі калгас імя Леніна аб‘яднаў 10 бядняцка- серадняцкіх гаспадарак і меў 6 коняй, 20 кароў, дык зараз гэтая лічба значна павялічылася. За час падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай сяўбы калгас вырас на 46 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Коняй у калгасе маецца 48, кароў 130, сьвіней 55, авец 40.

Калгас мае паравую малатарню, жняярку, касілку, сеялку, конныя граблі і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Пабудован сьвінарнік, млын, сьвіран. Маецца школа і дзіцячыя яслі.

Калгас імя Леніна поўнасьцю выконвае свае абавязацельствы перад дзяржавай. Увосень мінулага году калгас даў (прадаў) у каапэрацыю звыш 500 пуд. хлеба, 100 тон бульбы, 1500 пуд. крухмалу, 5 штук сьвіней, некалькі штук кароў. На пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ калгасьнікі падпісаліся на 560 рублёў, на акцыі Трактарацэнтру—300 руб.

Калгасьнікі актыўна ўдзельнічаюць у праводзімых партыяй і ўрадам гаспадарча-палітычных кампаніях.

Калгас з посьпехам скончыў веснавую сяўбу, поўнасьцю выканаўшы намечаныя пляны і распачаў падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. Уся работа ў калгасе праводзіцца мэтадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**М. Ш.**

# Зьдзельшчына дала буйныя посьпехі

*(Капыльскі раён)*

Калгас Ільліч, Капыльскага раёну, усю працу перавёў на зьдзельшчыну. Усе калгасьнікі разьбіты на брыгады, як-та: брыгада палявых рабочых, жывёлагадоўчая, сталяроў і г. д.

З пераходам на зьдзельшчыну ў калгасьнікаў зьявілася вялікая зацікаўленасьць да працы. Кожны калгасьнік усьвядоміў, што па працаднёх будзе разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў, з пераходам на зьдзельшчыну пачало разгортвацца сацспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж брыгадамі, так і паміж асобнымі калгасьнікамі.

З адмоўных бакоў у зьдзельшчыне—гэта малыя нормы. Напрыклад, накідаць 15 вазоў гною паўтара працадні, у той час, калі ў калгасе „Пралетары“ 16 вазоў накідаюць у адзін працадзень.

**Селькор В.**

# ДАЦЬ ДОНБАСУ 2.300 ШАХЦЁРАЎ

**Лішкі працоўнай сілы калгасаў—у прамысловасьць**

У калгасах, нават пры слабай арганізацыі працы, маецца шмат лішкаў працоўнай сілы. З увядзеньнем норм выпрацоўкі і пераходам калгасаў на зьдзельшчыну, з падвышэньнем вытворчасьці працы калгасьнікаў і яе якасьці, з машынізацыяй гаспадаркі калгасу,—у калгасах будзе вызваляцца яшчэ большая колькасьць працоўнай сілы. Калгасы павінны частку сваёй рабочай сілы скарыстаць у адыход у сталыя і сэзонныя галіны народнае гаспадаркі (на фабрыкі, заводы, шахты і г. д.).

Але адыход рабочай сілы з калгасаў павінен праходзіць у арганізаваным парадку. Пры арганізаваным адыходзе праўленьне калгасу заключае ўмову з адпаведнай гаспадарчай арганізацыяй на пэўную колькасьць працоўнай сілы, якую вылучае калгас.

Партыйныя і савецкія арганізацыі і праўленьні калгасаў павінны павесьці шырокую растлумачальную работу сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў аб тым, на колькі важна для сацыялістычнага будаўніцтва снабжэньне прамысловасьці і савецкіх гаспадарак рабочай сілай з вёскі.

**Вярбоўка шахцёраў—ударна-палітычная работа**

Усесаюзная качагарка—Донбас адчувае войстры недахоп у рабочай сіле. Калгасы БССР маюць у сваім складзе шмат горнарабочых, якія раней працавалі ў шахтах. Накіраваць гэтых шахцёраў у Донбас, вылучыць з свайго складу лішкі рабочай сілы для камплектаваньня прамысловасьці—прамы абавязак калектыўных гаспадарак.

Калгасы БССР павінны накіраваць у шахты Донбасу 2.300 чалавек. Аднак справа з вярбоўкай горнарабочых ідзе вельмі нездавальняюча. Гэта зусім ня значыць, што калгасьнікі ня хочуць ісьці ў шахты. Лік вылучаных калгасьнікаў дасягае 900 чалавек, і калі з гэтай колькасьці накіравана ў Донбас толькі каля 6 проц., дык гэта тлумачыцца толькі тым, што з боку праўленьняў шэрагу калгасаў наглядаецца нежаданьне адпускаць адыходнікаў.

Мы наглядаем, што ў тых раёнах, дзе з боку райкалгассаюзаў была разгорнута адпаведная работа (Касьцюковіцкі раён), там маецца значны зрух у гэтай справе.

**Выканаць дырэктыву партыі**

Паказаньні ЦК КП(б)Б аб вярбоўцы шахцёраў у Донбас у шэрагу раёнаў ня выконваюцца. Так, старшыня Чэрыкаўскага райкалгассаюзу ня хоча дапамагаць справе вярборцы з складу калгасьнікаў. Ён, бачыце, нічога ня можа зрабіць таму, што ў яго „няма людзей“. Калі райкалгассаюз гэтак глядзіць на справу вярбоўкі калгасьнікаў у шахты, дык па-



Дзіцячая пляцоўка „Бальшавік“ (Самахвалавіцкі раён), арганізаваная на час уборкі ураджаю.

асобныя калгасы раёнаў зусім адмовіліся вылучаць адыходнікаў. Так, напрыклад, у калгасе імя Рачыцкага ёсьць старыя гарнякі, жадаючыя ехаць у Донбас, але старшыня калгасу катэгарычна адмовіўся іх адпусьціць.

Арганізацыі Магілеўскага раёну таксама ня выконваюць пастановы ЦК і ўрадавых органаў па вярбоўцы адыходнікаў у Донбас. У раёне маецца 85 калгасьнікаў і шмат аднаасобнікаў, якія жадаюць уехаць у Донбас, але праўленьні калгасаў і сельсаветы не даюць гэтым калгасьнікам і аднаасобнікам адпаведных даведак (Шчажэрскі, Мастоцкі, Чарназемаўскі, Грабянеўскі сельсаветы).

Ня лепш абстаіць справа і ў Крычаўскім раёне. У калгасе „Пабеда“ ёсьць шэраг калгасьнікаў, жадаючых паехаць, але ні праўленьні калгасу, ні сельсавет не даюць гэтым калгасьнікам неабходных дакумэнтаў. Старшыня Крычаўскага райкалгассаюзу заяўляе: „Усё роўна тут вы нічога ня зробіце з вярбоўкай у Донбас“.

Таксама дрэнна абстаіць справа з вярбоўкай у шахты і ў Ляднянскім раёне. Калгасы гэтага раёну павінны вылучыць ня менш 50 калгасьнікаў, у кожным калгасе маецца пэўны лішак працоўнай сілы і поўная магчымасьць вылучыць з кожнага колгасу па 1—2 адыходнікі. Маецца шмат калгасьнікаў, жадаючых паехаць, але праўленьні калгасаў рашуча адмаўляюць у гэтым.

### Зрабіць рашучы пералом

Прыведзеныя вышэй факты сьведчаць аб тым, што ў справе вярбоўкі горнарабочых па БССР яшчэ ня зроблен належны пералом і райкалгассаюзы да гэтага часу недааценьваюць значэньня гэтай работы, плятуцца ў хвасьце.

Зараз-жа вулучыць у Донбас 2.300 калгасьнікаў. Згодна пастановы праўленьня Белкалгасцэнтру калгасы павінны безадкладна адпусьціць тых калгасьнікаў, якія завербаваны і жадаюць паехаць для работы ў шахце.

**С. К—ў.**



# Брацкі прывет лепш

# Калгасных палёў Савецкай Украіны, п
# свой вопыт работы калга

### Поўнасьцю выкарыстаць вопыт п ...давых калг



Максім Разломенка. Ударнік калгасу імя Шэўчэнка (Крэменчугскі раён УССР).

## Да ўсіх калгасаў і калгасьнік

(Ліст 300 ударнікаў калгасьнікаў УСС

Мы, атрад калгасьнікаў і калгасьніц Савецкай Украіны, у ліку 300
тэрскую нам Савецкую Беларусь для работы, шлем гарачае пр
і калгасьніцам БССР.

Таварышы, працуючы ўпарта пад кіраўніцтвам КП(б)У над соцыялі
скай гаспадаркі УССР, ламаючы бязьлітасна супраціўленьне кулацтва,
сьпехаў і ўжо завяршаем вялікую справу суцэльнай калектывізацыі і л

Гэта работа па калектывізацыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца на
бо нам прыходзіцца на гэтым фронце вытрымліваць вострую клясавую
капіталістычнага сьвету. Таму з большай упартасьцю і больш шпа
павінны будаваць нашу калектыўную гаспадарку.

Мы, калгасьнікі і калгасьніцы Савецкай Украіны, уліўшыся ў вашы
сілай і энэргіяй будзем сапраўды бальшавіцкімі тэмпамі працаваць на
задачы партыі: правядзеньнем суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы... перадаючы вам вопы
цыю сельскай гаспадаркі на Савецкай Украіне, мы будзем таксама вучыцца ў вас і агульнымі сіламі будзем

За суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю кулацтва, як клясы.

*За жалезную пралетарскую дысцыпліну ў калгасах, за ўдарныя бальшавіцкія тэмпы ў рабоце калгась*

У максымальнай меры забясьпечым лепшую падрыхтоўку і правядзеньне ўборачнай кампаніі і асеньня

**Няхай жыве камуністычная партыя — кіраўнік і арганізатар сацыялістычнага земляробст**



Маёранка, Яблоненка, Трэцьцяк. Калгасьніцы-ўдарніцы Крэменчугскага і Лубенскага раёнаў УССР.

**„Адно з самых выдатных з**
**калгаснага руху стаіць у тым**
**ён ужо пасьпеў выгадаваць тысячы**
**нізатараў і дзесяткі тысяч агіта**
**калгаснай справы самых сялян**

Ст

# ...вет лепшым ударнікам

## Савецкай ...аіны, прыехаўшым перадаць вопыт ра...ы калгасам БССР

### ...рыстаць вопы...давых калгасаў брацкіх рэспублік!

### ...усіх калгаса...калгасьнікаў БССР

(Ліст 300 уда...калгасьнікаў УССР)



Махіня, арганізатар камсамольскай камуны КІМ (Лубенскага раёну УССР).

...сьнікаў і калгасьніц Са...краіны, у ліку 300 чалавек, прыбыўшы ў бра-...ую Беларусь для р...радаем гарачае прывітаньне ўсім калгасьнікам ...Р.

...ючы ўпарта пад кірау...П(б)У над соцыялістычнай рэканструкцыяй сель-...ССР, ламаючы бязьлітас...ціўленьне кулацтва, мы дабіліся вялізарных по-...ршаем вялікую справу ...і калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы. ...калектывізацыі сельскага...ркі зьяўляецца надзвычайна цяжкай работай, ...на гэтым фронце выт... вострую клясавую барацьбу з рэштакмі старога ...сьвету. Таму з большай...цю і больш шпаркімі ўдарнымі тэмпамі мы ...вашу калектыўную гасп...

...кі і калгасьніцы Савецкай, уліўшыся ў вашы рады, разам з вамі з усёй ...будзем сапраўды бальшав...памі працаваць над вырашэньнем генэральнай ...і ліквідацыі кулацтва, п...радаючы вам вопыт, набыты намі на фронце змаганьня за соцыялістычную рэканструк-...ем таксама вучыцца ў ва...*ымі сіламі будзем капаць глыбокую магілу паміраючаму капіталізму.*

...цтва, як клясы.

...ас, аб ўдарныя бальшаві...*ў рабоце калгасьнікаў!*

...рытоўку і правядзеньн... кампаніі і асеньняй сяўбы.

...ўнік і арганізатар са...нага земляробства ў вялікім Савецкім Саюзе!.

„Адно з с...ыдатных заваёў калгаснага ру...аіць у тым, што ён ужо пасьпе...уць тысячы арга-нізатараў і дз...тысяч агітатараў калгаснай спра...аміх сялян“

**Сталін.**



Духно. Гробень, Камавы. Ударнікі калгасаў Лубенскага раёну УССР.

# Сабраць 240 цэнтнераў насеньня лугавых траў

Буйный рост сацыялістычнай жывёлагадоўлі патрабуе вялізарных тэмпаў па арганізацыі сталай, цьвёрдай кармавой базы і ў тым ліку арганізацыі штучных і палепшаньня натуральных сенажацяй і выпасаў. Але пры вырашэньні гэтага пытаньня мы натыкаемся на недахоп насеньня лугавых траў, як-та: палявіцы белай, мятлікоў, ежы, аўсяніцы і інш.

Да гэтага часу канкрэтныя заданьні збору насеньня лугавых траў з дзікага травастою сенажацяй не даведзены да вытворчых аб'яднаньняў. Гаспадарчыя арганізацыі праявілі поўную бязьдзейнасьць у важным пытаньні. Іх бязьдзейнасьць можа даць у 1932 годзе страту дзяржаве мінімум у 70.000 р. ці 2.000 тон сена, якое магчыма мець ад расьсеву ў весну 1932 г. 240 цэнтн. насеньня лугавых траў дзікарастучага травастою.

Вось чаму гэтаму пытаньню павінна быць надана сур'ёзная ўвага. Партыйныя, камсамольскія, прафсаюзныя і савецкія арганізацыі раёнаў павінны зараз-жа ўзяцца за справу па збору насеньня лугавых траў. Выкананьне гэтага мерапрыемства бясспрэчна патрабуе сталых ведаў і навыкаў. Таму, каб палегчыць яго выкананьне, трэба добра пазнаёміцца з шэрагам арганізацыйна-тэхнічных момантаў.

### Што вылучыць з травастою на насеньне

Вылучаемы на насеньне травастой можа быць суцэльным альбо амаль чыстай зарасьлю ў выглядзе паасобных зарасьляй у выглядзе роўнамернай сумесі з іншымі кармавымі травамі і нават сарнякамі. Вылучаецца на збор насеньня як чысты травастой, так зьмешаны і засьмечаны, аднак пры наступных умовах:

а) Травастой састаіць з раду каштоўных кармавых траў, якія калі ня могуць быць рассартыраваны, то могуць быць высяваемы ў сумесі.

б) Травастой засьмечаны нязначна, лёгка выкапваемымі сарнякамі і полка забясьпечана.

в) Каштоўная трава травастою засьмечана на 50 проц. і вышэй, але яна высьпявае раней сарнякоў.

г) Каштоўная трава травастою засьмечана на 50 проц. і вышэй, але насеньне яе лёгка адсартыроўваецца.

д) У іншых выпадках уборка каштоўных кармавых траў з травастою павінна быць вытварана выбарачна, шляхам абшморгваньня сацьвецьці.



Работа аўтомата Фрэза на праполцы абсыпных культур (саўгас Лошыца).

Вучасткі лічацца няпрыгоднымі, калі:

а) стан травастою вельмі слабы, што не дае разьлічваць на больш менш здавальняючы ўраджай насеньня (слабае разьвіцьцё расьлін, слабае калашэньне і цьвіценьне);

б) выяўлена вельмі значная ці ядавітая засьмечанасьць, барацьба з якой (адсартыроўка ці выбарачная ўборка) не магчыма ці добраякаснасьць прадукцыі выклікае сумненьне.

Калі ў травастоі некалькі каштоўных кармавых траў розных тэрмінаў пасьпяваньня, неабходна вызначыць, якую з іх высьпяваць на насеньне, якім даць асыпацца і якім ня даць дасьпець.





Садоўнік-ударнік калгасу Ланд Арбэйт (Рэчыцкі раён).

## Тэрмін уборкі

Вельмі важна своечасова вызначыць тэрмін уборкі траў на насеньне, так як датэрміновая ўборка вельмі зьніжае якасьць насеньня, а спазьненьне прынясе вялікія страты насеньня з прычыны іх шпаркага асыпаньня. Таму ў пэрыяд пасьпяваньня насеньня, за вылучанымі вучасткамі неабходна ўстанавіць сталае сыстэматычнае нагляданьне.

Час пасьпяваньня насеньня і тэрмін уборкі для вучастка вызначаецца наступнымі прызнакамі:

а) верхняя частка сьцяблоў у збожжавых траў жаўцее; галоўкі ў бабовых бурэюць і засыхаюць;

б) пры лёгкім удары пучка калосьсяў злакавых траў аб далонь некалькі зерняў абсыпаецца. Пры расьціраньні галовак бабовых выціраецца некалькі зернят сьпелага колеру;

в) пры раздушваньні зернят ногцем не аказваецца малочнай вадкасьці.

## Як убіраць траву на насеньне.

Уборка насенных вучасткаў павінна выконвацца роўна, у залежнасьці ад разьмераў яго, характару травастою і аргазацыйна-гаспадарчых умоў.

Калі вучастак займае значную плошчу, насенная трава займае ў травастоі больш чым 50 проц. Уборку гэтага вучастку лепш праводзіць машынамі—жаткай, самаскідкай пры ўстаноўцы грабель на нулявое дзяленьне. Жатка вытвораецца даволі вузкім загонам, трава скідаецца на палавікі, брэзэнты па канцох вучастку ці на далёкіх адлегласьцях адзін скід ад другога. Уборка травы простай касаркай не ракамандуецца.

Калі зарасьні насеннай травы раскіданы рэдка, то пры дастатковай увазе можна арганізаваць сваячасовую ўборку травы на сена, вылучаючы абкосам, разам з тым астраўкі травы на насеньне застаўляюць дасьпяваць пасьля ўборкі сена.

У тым выпадку, калі на вучастку маецца некалькі каштоўных відаў траў у агуле больш 50 проц. травастою, але кожнага віду паасобку адносна нямнога расьсеяных роўнамерна, пры гэтым і пасьпяваюць адначасова, тады ўбіраць яе патрэбна рукамі шляхам абшморгваньня насеньня ў фартухі, мяшкі і інш.

Касіць траву на насеньне патрэбна раніцою на расе, таму што насеньне з вільготнага коласу (мяцёлкі) ня так выпадае. Скошаная трава зараз-жа зьвязваецца ў невялічкія снопікі і апошнія складваюцца па 9—12 штук у бабкі. Пакрываецца распраўленым снопікам калосьсямі ўніз. У пакрытых такім чынам бабках нават і пасьля працяжных дажджой удаецца сабраць насеньне добрай якасьці, апрача таго дасьпяваньне насеньня ў бабках прахозіць роўнамерна. Бабкі застаўляюцца ў полі да поўнага высыханьн травы і пасьпяваньня насеньня.

Пры звозцы ўраджаю з поля асьцярожна бяруць усю бабку і кладуць на воз, абавязкова пакрыты брэзэнтам ці пасьцілкай, бяз гэтага частка насеньня можа абсыпацца на зямлю.

Пры малацьбе неабходна прытрымліваць сноп у барабане некалькі больш, чым звычайна, а ў паасобных выпадках прапускаць матар'ял праз малацілку разы два. Сартыроўку неабходна праводзіць на абсталяваных адпаведным чынам зернаачышчальных пунктах пад асобым наглядам сьвядомых асоб.

Асаблівай увагі патрабуе сушка насеньня пасьля абмалоту і сартыроўкі. Нават пры поўнай упэўненасьці ў сухасьці насеньня, мяшкі патрэбна насыпаць ня поўнымі з разьлікам, каб было магчыма пэрыядычна ўстрахваць і папярэдзіць псаваньне насеньня ад награваньня і зьлежваньня.

Бараноўскі.



Уборачныя машыны камуны „Бальшавік" да уборочных работ падрыхтаваны.

# У паход за сілос

**Забясьпечыць кожную карову 3-ма тонамі сілоснай масы на час стойлавага ўтрыманьня. Строга трымацца каляндарнага пляну сіласаваньня! Ні хвіліны зацяжкі!**

## Як правільна арганізаваць сіласаваньне

Ёсьць два спасабы сіласаваньня: гарачы і халодны.

Пры гарачым спосабе сіласаваньня тэмпэратура сілоснай масы падымаецца да 45—50 градусаў. Пры гэтым спосабе страты спажыўных матэрый корму дасягаюць 30—40 проц.

Гэтым спосабам раіцца сіласаваць толькі малакаштоўныя, грубасьцеблавыя расьліны і розныя кіслыя травы (асака, бур'ян і інш.), якія пры гарачым сіласаваньні становяцца мяккімі, паляпшаецца іх спажыўная вартасьць і яны больш ахвотна спажываюцца жывёлай.

Пры гарачым спосабе сіласаваньня корм няшчыльна накладваецца пластом таўшчынёй да 1 мэтра і так пакідаецца на 1—2 дні, пакуль нагрэецца да тэмпэратуры ў 45—50 градусаў. Як толькі корм сагрэецца да паказанай тэмпэратуры, яго зараз-жа трэба добра ўтрамбаваць (асабліва трэба добра ўтрамбаваць вакол сьцен), пасьля чаго на ўтрамбаваны корм трэба накладаць няшчыльна новы слой корму таўшчынёй, прыкладна, таксама ў 1 мэтр і пакідаць яго зноў на 1—2 дні, пакуль тэмпэратура не падымецца да 45—50 град., потым зноў утрамбоўваюць і г. д. да напаўненьня ямы ці траншэі.

**Зараз прыняты пераважна халодны спосаб сіласаваньня, які зьяўляецца найлепшым спосабам, так як атрымоўваецца параўнаўча нязначны процант страты спажыўных матэрый (5--15%).**

Пры халодным сіласаваньні тэмпэратура ў сілосе не падымаецца вышэй 15—20 градусаў. Для стварэньня добрых умоў да халоднага сіласаваньня неабходна прытрымлівацца наступных правіл:

1. Корм павінен рэзацца на кавалкі даўжынёй у 1—2 *см* і добра ўтрамбоўвацца ў сілоснай устаноўцы.

2. Вільготнасьць сілоснага корму павінна быць 65—70 проц.

3. Сіласуемы корм павінен быць сьвежым, не папсутым і бев зямлі.

4. Шчыльна закрываць сілос.

Для разьвіцьця нармальных працэсаў у сілосе, корм павінен мець пэўную вільготнасьць—65—70 проц.

Такая вільготнасьць бывае звычайна ў расьлінах у час іх малочнай, ці васковай сьпеласьці. Для распазнаваньня гэтых стадый сьпеласьці расьлін, трэба кіравацца наступным: пры малочнай сьпеласьці—поле захоўвае яшчэ зялёны колер, але ўжо заўважаецца паніжаная інтэн-

сыўнасьць афарбоўкі. Паасобныя сьцяблы зьнізу становяцца жоўтымі, а зьверху застаюцца яшчэ зялёнымі.

Практычна вільготнасьць корму пазнаецца наступным чынам: калі пры моцным скручваньні расьлін у руках сок з яе цячэ каплямі—значыць вільготнасьць вялікая, калі-ж сок толькі выступае з расьліны і не сьцякае каплямі—вільготнасьць лічаць нармальнаю і расьліна прыгодна для сіласаваньня. Больш дасканалы практычны спосаб пазнаваньня вільготнасьці можна раіць наступны: бяруць 5 *кг* корму, нарэзваюць яго дробна і зараз-жа важаць. Пасьля гэтага гэты корм высушваюць на сонцы або ў печы. Калі пасьля высушваньня вага корму паменшыцца на палову, значыць корм мае патрэбную вільгаць для сіласаваньня—65—70 проц. Пры сушцы ўся вільгаць ня выходзіць. Калі вага корму пры высушваньні паменшылася больш, як на палову, значыць корм мае ў сабе лішнюю вільготнасьць.

У гаспадарцы часта прыходзіцца сіласаваць расьліны з вільготнасьцю вышэй 65—70 проц., як-та: капусны ліст, бульбоўнік, бацьвіньне, караньплоды і інш. Такія кармы трэба сіласаваць у прымесі з сухімі кармамі (саламяная рэзка, мякіна і г. д.) у такой прапорцыі, якая-б забясьпечыла патрэбную вільготнасьць у сілосным корме. Так, напрыклад, пры сіласаваньні батвы караньплодаў, якая мае вільгаці да 90 проц., трэба дадаваць да сілоснай батвы мякіну або саламяную рэзку, якая мае вільготнасьць 12 проц. у такой прапорцыі: на кожных 100 *кг* сілоснай батвы караньплодаў трэба дадаць прыкладна 15—20 *кг* мякіны, альбо саламянай рэзкі, што складае $12\frac{1}{2}$—$16\frac{1}{2}$ проц. сумесі, так як такая прапорцыя сумесі забясьпечыць патрэбную вільгаць у 65—70 проц.

Пры сіласаваньні кармоў, маючых вільготнасьць менш 65—70 проц., напрыклад, салому, мякіну і г. д., корм, пасьля яго зьмяльчэньня, трэба паліць роўнамерна вадой у такой прапорцыі, якая-б забясьпечыла патрэбную вільготнасьць у 65—70 проц. у сілосным корме. Сухі корм, маючы больш нізкую вільготнасьць, пры сіласаваньні хутка заплесьняе і псуецца.

Для рэзкі корму і напаўненьня сілосу ўжываюцца спэцыяльныя машыны сіларэзкі, якія ня толькі рэжуць сілос, але шляхам паветранай струі гоняць усю масу праз трубы ў сілосную вежу. Для рэзкі сілосу можна таксама ўжываць звычайную саломарэзку.



Сілосная вежа калгасу „Энгельс“ (Уваравіцкі раён).

Дыскавымі саломарэзкамі тыпу Бенгала, Гофмана і інш. магчыма зрэзаць у рабочы дзень да 10—15 тон зялёнай масы. Саломарэзкі барабаннага тыпу даюць у 2—3 разы меншую вытворчасьць працы па рэзцы сілосу—каля 4—7 тон зялёнай масы ў рабочы дзень. Працу на саломарэзцы лепш за усё ўтвараць над самай ямай, ці траншэяй. Для гэтага наладжваюць адпаведны памост над імі з такім разьлікам, каб зрэзваемы корм падаў непасрэдна ў сілосную яму, ці траншэю і гэтым самым з'эканоміць затрату працы на адграбаньне рэзкі і на загрузку яе ў сілосную ўстаноўку.

Для адгрузкі зрэзанага корму ў над-

земную ці паўнадземную вежу, а таксама ў яму, ці траншэі з высока-паднятымі над паверхняю зямлі баковымі сьценамі— можна карыстацца сыстэмаю блёкаў, альбо пры дапамозе простага самадзельнага элеватара.

Велічыня рэзкі павінна быць у 1—2 *см.* Асабліва дробна трэба зразаць расьліны з грубымі сьцяблами, як кукурузу, сланэчнік і г. д.

Пры напаўненьні вежы, альбо ямы сілоснай масаю, трэба яе добра ўтрамбаваць, каб ні ў якім разе не дапусьціць паветра ў сілос.

Асабліва добра павінна быць утрамбавана вакол саміх сьценак сілоснай вежы альбо ямы. Таксама трэба сачыць за тым, каб сілосная маса была раўнамерна разьмеркавана па ўсёй паверхні сілоснай устаноўкі для таго, каб дабіцца яе раўнамернага асяданьня.

Загружаныя для сілосу расьліны павінны быць абавязкова чыстыя ад частак глебы і пяску і ад сьмецьця. Гэта асабліва важна пры сіласаваньні бульбоўніку і бацьвіньня караньплодаў. Таму раіцца скошваць, альбо зразаць бульбоўнік за некалькі дзён да выкапкі бульбы, атрасаць яго ад частак глебы і пяску. Пры выцягваньні карэньняў караньплодаў з глебы, трэба зараз-жа іх адразаць і абтрасаць ад частак глебы і пяску. Трэба адзначыць, што бульбоўнік, заражоны хваробай і таксама загніўшы, для сіласаваньня няпрыгодны.

Загрузка сілосу ўтвараецца з верхам. Пад уплывам бражэньня, корм праз некалькі дзён асядае, таму праз 3—4 дні трэба зрабіць дагрузку сілосу. Пасьля поўнай загрузкі сілоснай устаноўкі, трэба сілосную масу шчыльна накрыць слоем прыблізна ў 15—25 *см* дробнай саламянай рэзкі змочанай вадой. Зьверху яе кладуць змочаны пласт гліны, на верх трэба пакласьці дошкі з якім-небудзь грузам (каменьні і г. д.) з такім разьлікам, каб нагрузка была ня менш паўтоны на 1 кв. мэтр.

Пакрышка ямы, ці траншэі робіцца ў выглядзе скляпеньня, краі якой павінны перакрываць краі ямы на 1 мэтр, а траншэі на 0,75—0,9 мэтра. Вакол ямы, ці траншэі на адлегласьці, прыкладна $^1/_2$ мэтра ад краёў засыпкі, трэба зрабіць адводныя канаўкі для сьнегавой і дажджавой вады. Каб захаваць сілос ад дажджу, робіцца звычайны навес, які адначасова захоўвае сілос ад прамярзаньня. Загрузка сілоснай устаноўкі павінна быць праведзена ў карацейшы тэрмін, па магчымасьці, ня больш як у 2—3 дні пры закладцы сілосу ў ямах і 6—7 дзён пры закладцы сілосу ў вежах і траншэях.

Пры сіласаваньні ў вежах, звычайна ня ўжываюць ніякай пакрышкі і грузу, бо частка папсутага верхняга слою корму складзе вельмі нязначны процант у параўнаньні з колькасьцю сілоснай масы ў вежах. Пры напаўненьні сілоснай вежы можна абмежавацца пакрыцьцем сілоснай масы тонкім слоем дробнага торфу, ці мякіны, змачыўшы яго крыху вадою і засеяць на ім насеньне аўсу, які, прарасшы, утварае вельмі шчыльную пакрышку.

Закладзены сілос пасьпявае прыблізна праз 1—2 месяцы пасьля яго загрузкі, а пры сіласаваньні бабовых расьлін—праз 2—3 месяцы пасьля яго загрузкі.

Розенблюм.

## Селькор!

## Будзь застрэльшчыкам па рэалізацыі пазыкі імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

# Калі што сіласаваць

Раней, чым прыступіць да сіласаваньня, трэба агледзіць усе старыя сіласныя ямы і траншэі, у якіх патрэбна падраўняць сьцены і падлогу, а таксама пабяліць сьвежа-гашанай расчынай вапны. Трэба агледзіць і адрамантаваць сіласарэзкі і сячкарні.

Сіласаваньне трэба пачаць з 15 чэрвеня і праводзіць наступным чынам:

**У чэрвені** трэба сіласаваць асаку, чарот, пустазельле, крапіву, лебяду і інш. Абкасіць сады, дарогі, прыгуменьні, балоты.

**У ліпені**—пустазельле—крапіву, лебяду і інш., а таксама адыходы ад праполкі гародаў і палёў, апошнія абавязкова ачышчаць ад гразі і зямлі. З пустазельля нельга сіласаваць: балігалоў (ці ванючку), воўкабой (ці цорзельле), чымярыцу, рагатыя васількі, беляну, конскі ўкроп, цыкуту, пятрушку, какорыш, дурман, люцікі.

**У жніўні**—бабовыя, сланэчнік, кукурузу.

**У верасьні**—сланэчнік, кузурузу, атаву канюшыны і сенажацяй, бульбоўнік, бацьвіньне.

**У кастрычніку**—бульбоўнік, капусны ліст, вецьце з дрэў, бацьвіньне каранеплодаў, брагу, мязгу і адыходы з гумна.

Усю работу па сіласаваньню перавесьці на зьдзельшчыну. За адзін дзень у сярэднім адзін чалавек выкапае 5 кубамэтраў, ці брыгада з пяці чалавек на працягу 8 дзён выкапае 200 куб/м. ёмкасьцю на 100 тон сілоснай масы. Работа па копцы ям і траншэй лічыцца цяжкаю працаю і ацэньваецца: 1 кубамэтр 25 сотых працадня. За аб'ём перавыкананай нормы павялічваецца расцэнка на 10—25 проц.

Вызначаную кожнаму калгасу масу сіласаваньня трэба абавязкова засіласаваць: **у чэрвені—15 проц., ліпені—15 проц., жніўні—30 проц., верасьні—40 проц. Сіласаваньне ў кастрычніку павінна ісьці звыш плянавых заданьняў.**

Ар. М.

## Плян сіласнага будаўніцтва і сіласаваньня кармоў па калгасах БССР

| Што сіласаваць / Род работ | | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Асака, чарот, пустазельле—крапіва, лебяда і іншае. Абкошваньне садоў, дарог і прыгуменьняў | Пустазельле: крапіва, лебяда і інш. сарнякі ад праполкі гародаў і палёў | Спэцыяльныя пасевы на сілас, кукуруза, сланэчнік і бабовыя мешанкі | Атава канюшыны і сенажацяй, бульбоўнік, бацьвіньне сланэчнік і кукуруза | Бульбоўнік, бацьвіньне і капусны ліст |
| Падрыхтоўка ям і траншэй | Проц. | 100 | — | — | — | Сустрэчны плян |
| | абс. лічбы ў куб/м. | 1.000.000 | — | — | — | |
| Сіласаваньне | Проц. | 15 | 15 | 30 | 40 | |
| | Абс. лічбы ў тонах | 75.300 | 75.300 | 150.600 | 200.800 | |

# Як касіць і ўбіраць сена, каб атрымаць большую колькасьць кармоў

## Час уборкі

З скошваньнем натуральных і штучных лугоў і іншых кармовых расьлін ніколі ня трэба пазьніцца. Калі спрыяе пагода, касьбу трэба пачаць за 5—6 дзён да пачатку цьвіценьня.

Раньняе скошваньне асабліва неабходна на сенажацях з большым лікам грубанатуральных сарнякоў, якія цьвітуць раней іншых траў і хутка грубеюць пасьля адцьвітаньня.

Скошваньне травы вытвараецца як мага ніжэй, гэтым дасягаецца атрыманьне найбольшага ўраджаю, хутчэй ідзе высушваньне і хутчэй адрастае атава.

Пры касьбе машынамі неабходна скарыстаць увесь захват касілкі. Для гэтага на вучастку трэба спачатку закругліць вуглы і весьці касьбу ўкругавую, што асабліва важна пры ўборцы сенажаці трактарам.

## Сушка травы

Сушка ў валок зьяўляецца найменш працаёмкай і найбольш выгаднай. Пры гэтым спосабе скошаная касілкай трава застаўляецца ў пракосах да наступнага дню. Да вечара наступнага дню трава зграбаецца ў валы, у якіх канчаткова прасыхае. Пры касьбе ў ручную неабходна валы разьбіць у дзень пакосу.

Пры сушцы ў вялікіх копнах (3—4 цэнцнеры) скошаная трава застаўляецца ў пракосах на адны суткі. На другі дзень яе зграбаюць у валы, у якіх яна ляжыць 2—3 дні. Калі трава дастаткова прасохне, яе зьбіраюць у вялікія копны, у якіх яна канчаткова дасушваецца ў 2—4 дні.

## Сушка на вешалках

Пры дрэннай пагодзе, зацяжных дажджох, сена сушыцца на асобных прыстасаваньнях—падстаўках. Гэты спосаб найбольш працаёмкі і зьвязаны з наліччам драўлянага матар'ялу для прыстасаваньняў. Асабліва пры сушцы канюшыны неабходна ўжываць гэты спосаб.

Існуе некалькі спосабаў такой сушкі: на жэрдках, кольлях, шатрох, у пірамідах і г. д. Сутнасьць сушкі пры ўсіх гэтых прыёмах адна і тая ж. Трава, скошаная і правяленая на працягу 1—2 дзён, зграбаецца ў валы і насаджваецца на прыстасаваньні. Класьці траву трэба аднолькавымі пластамі да 70 сант., каб не атрымалася ўпадзінаў і выпукласьцяй. Трава павінна адстаяць ад зямлі на 20—30 сант. Падставы ставяць у кірунку з поўначы на поўдзень для раўнамернага награваньня складзенай травы. На прыстасаваньнях трава вісіць да поўнай прасушкі ад 1 да 3 тыдняў. Падставы наладжваюць вышынёй ў 2—2½ мэтры, больш высокія рабіць ня варта.

## Бурае сена

Пры дрэннай пагодзе зарыхтоўваюць бурае сена.

Скошаная трава крыху прасушваецца ў валох і пасьля таго, як яна згубіць ня менш 50 проц. вільгаці (пры скручваньні джгута з травы не павінна зьявіцца вада), яе ўкладваюць у стагі шчыльным слоем, бяз усялякіх пустых месц (кожны слой добра ўтаптваецца). Вярхушку стага пакрываюць саломай таўшчынёй у 17—18 сант. Стог звычайна робяць шырынёй 3—4 мэтры і вышынёй 5—6 мэтраў.

Саграваньне ў стагу працягваецца 3—4 тыдні. Трэба назіраць, каб не атрымалася згараньня сена. Для гэтага зьмяраюць тэмпэратуру ўнутры стага пры дапамозе жалезнай палкі. Калі палка награваецца і яе нельга трымаць рукою, стог неабходна разабраць і прасушыць.

На прыгатаўленьне бурага сена можа быць выкарыстана таксама атава, якая ў радзе раёнаў ня можа быць высушана.

А. П.

# За высокую ўдойлівасьць калгаснай каровы

Задача падвышэньня ўдойлівасьці кароў зьяўляецца аднэй з галоўнейшых сустаўных частак у вырашэньні праблемы сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Асноўнай сустаўной часткаю гэтай задачы зьяўляецца тое, каб найбольшая таварнасьць малака і малочных прадуктаў была дасягнута ў самы кароткі тэрмін і пры самым нізкім сабекошце адзінкі прадукцыі. Малочная прадукцыя павінна быць самай лепшай, самай высокай якасьці.

Трэба растлумачыць шырокім масам калгасьнікаў і беднякам і сераднякам — заўтрашнім калгасьнікам, неабходнасьць і важнасьць захоўваньня маладняка для справы камплектаваньня статка саўгасаў і калгасаў. Узмацніць трэба работу па пераходу на зьдзельшчыну, якая падвышае вытворчасьць працы. У аснову разьмеркаваньня прыбыткаў сярод калгасьнікаў трэба пакласьці колькасьць і якасьць атрыманага ад каровы малака (чым больш надоена малака, тым чысьцей гэта малако, тым лепш выдаена вымя каровы і цэлы рад іншых паказчыкаў).

Да гэтага часу кармавая база была адным з самых слабых вучасткаў жывёлагадоўлі. Корм для жывёлы—гэта тое самае, што сырэц для фабрык і заводаў. Вось чаму трэба самым рашучым чынам весьці барацьбу з недаацэнкай кармовага. пытаньня. Трэба неадкладна мабілізаваць усе сродкі, усе сілы на сваячасовае прарэджваньне, полку і рыхленьне караньплодаў, клубняплодаў, кукурузы, сланэчніка і іншых кармовых траў. Адначасова праводзіць падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю кармовых культур. Трэба забясьпечыць уборку кармовых перавозачнымі сродкамі, пабудовай сілосных ям і траншэй, выбарам і падрыхтоўкай месца для корня-клубня плодаў, ачысткай і дэзынфэкцыі маючыхся падвалаў і г. д. Ня менш важнай зьяўляецца работа па скарыстаньню на сілос сарнякоў як-та: лебяда, асака, бульбянае бацьвіньне і г. д.

Сенаўборачная кампанія павінна быць пачата без спазьненьня і праведзена самым шпаркім тэмпам. Лепшым часам уборкі сенажаці зьяўляецца пэрыяд красаваньня траў. Спазьненьне вядзе да зьніжэньня спажыўнасьці сена.

Не дапусьціць, каб у полі засталіся ня ўбранымі ніводзін кілёграм корму, павялічыць колькасьць патрэбных кармоў, разумна адносіцца да іх скарыстаньня, стварыць страхавыя і фуражныя фонды разьмерам ня ніжэй 15 проц. да агульнай гадовай патрэбнасьці ў корме,—вось што зьяўляецца залогам падвышэньня ўдойлівасьці калгасных кароў і ўтрыманьня ўдояў на працягу доўгага часу году на дасягнутай вышыні. Трэба зараз заняцца палепшаньнем пасьбы і забясьпечыць моцнае кармленьне жывёлы ў другую палову лета.

Трэба памятаць, што і ўлетку жывёлу корміць ня толькі тучны луг, але і добры пастух. Пастух павінен умець правільна скарыстоўваць пасьбішча, умець заўважыць хворую жывёлу і сваячасова вылучыць яе са статку, каб ня даць распаўсюдзіцца заразнай хваробе на здаровую жывёлу. Пастух павінен умець аказаць у няшчасным выпадку першую дапамогу жывёле, калі гэта неабходна, да прыбыцьця вэтурача (напрыклад, пры ўздуцьці жывата ў жывёлы і г. д.).

Трэба скарыстоўваць усе магчымасьці па абсталяваньні цёплых, сьветлых, прасторных і чыстых хлявоў. Тады карова дае больш малака, менш патрабуе для яго стварэньня корму ўзімку, радзей падпадае хваробам. Досьледамі ўстаноўлена, што цёплы скотны двор зьберагае 15-20 пудоў сена на працягу зімы на кожную карову, ня зьніжаючы, а нават павялічваючы ўдой. Такой хваробай як сухоты жывёла, якая стаіць у прасторным сьветлым і нядушным хлеве, хварэе ў меншым процанце, самай добрай тэмпэратурай для жывёлы на скотным дварэ —9-10 градусаў. Сьветавая плошча вакон павінна раўняцца $^{1}/_{12}$-$^{1}/_{15}$ часткі плошчы падлогі ў залежнасьці ад таго, з якога матар'ялу зроблены скотны двор і наколькі ён цёплы. Месца для скотнага двара трэба старацца выбіраць роўнае і сухое. Вялікае значэньне мае пабудова дастатковай колькасьці выцяжных труб на скотным двары,

Гной трэба кожны дзень выграбаць зранку, у поўдзень і вечарам і падсьцілаць чыстую і сухую падсьцілку. Кармушкі таксама павінны кожны дзень ачышчацца ад аб'едкаў, якія лёгка псуюцца, гніюць, становяцца шкоднымі для жывёлы.

Чыстку жывёлы трэба рабіць кожны дзень. Рабіць гэта трэба пры дапамозе шчоткі і скарбніцы, а ў крайнім выпадку джгутом саломы. Вымя, перад кожнай дойкай трэба абмываць і выціраць суха чыстым ручніком. Рукі даяркі павінны абмываць вадой з мылам перад даеньнем кожнай каровы. Даіць трэба ў адзін і той-жа ўстаноўлены час. Першыя струйкі малака брудныя і маюць вельмі малы процант тлустасьці, а таму, каб не забрудзіць малако, іх трэба выдойваць на падлогу. Вымя павінна выдайвацца настолькі чыста, каб у ім не засталося ніводнай кроплі малака.

Апошнія струі малака вельмі багаты тлустасьцю, акрамя таго нячыстае выдайваньне псуе само вымя каровы. Даіць трэба 2 альбо 3 разы ў дзень у залежнасьці ад таго, колькі часу прайшло ад ацёлу каровы. Даеньне двумя пальцамі (вялікім і ўказальным) псуе саскі, яго трэба замяніць спосабам даеньня кулаком. Пры гэтым спосабе даеньня сасок ахопліваецца ўсёй кісьцю рукі, моцна сьціскаецца ў самага вымені—і такім чынам малако выдойваецца пры чарговым сьцісканьні пальцаў. Даіць лепш такім чаргаваньнем саскоў: правы, пярэдні, левы задні, правы задні, левы пярэдні.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на кармленьне малочных кароў. Вопыты Кастрамскога малочна-кантрольнага таварыства гавораць аб тым, што пры дачы моцных кармоў у год у колькасьці 670 кілёграм мясцовай жывёле павышаецца ўдой з 910 да 3088 кілёграм у год. Сярэдні ўдой мясцовых палепшаных калгасных кароў БССР па даным выстаўкі 1930 г. 1800—2000 літраў, а ў асобных кароў падымаўся вышэй 3000 літраў. Значыць магчымасьці падвышэньня ўдою саўгаснага і калгаснага малочнага стада маюцца. Трэба толькі даць жывёле належнае ўтрыманьне і догляд.

Агранам **Круглоў**.



Хворых кароў трэба трымаць асобна ад здаровых.

# Шырэй распаўсюдзім часопісь „Шляхі калектывізацыі“

## Лагойшчына выклікае на соцспаборніцтва ўсе раёны БССР

(з пастановы нарады старшынь і рахункаводаў калгасаў Лагойскага раёну)

Заслухаўшы інфармацыю прадстаўніка рэдакцыі часопісі „Шляхі калектывізацыі“ і прымаючы пад увагу, што часопісь зьяўляецца вялікім дапаможнікам у справе калгаснага руху (шырока асьвятляе пытаньні арганізацыі працы ў калгасах, паказвае на сваіх старонках лепшыя ўзоры работы калгасаў, асьвятляе пытаньні аб соцыялістычнай жывёлагадоўлі і г. д.)—нарада пастанаўляе:

1) павесьці шырокую работу сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў, па распаўсюджваньню часопісі „Шляхі калектывізацыі“. Дабіцца таго, каб да 1-га ліпеня г. г. усе калгасы Лагойшчыны былі падпісчыкамі часопісі,

2) нарада старшынь і рахункаводаў калгасаў Лагойшчыны выклікае ўсіх работнікаў Райкалгассаюзаў і старшынь калгасаў БССР на сацспаборніцтва на лепшае распаўсюджваньне часопісі „Шляхі калектывізацыі“ і хутчэйшае выкананьне дадзеных калгасцэнтрам кантрольных заданьняў па распаўсюджваньні часопісі. Выңікі чакаем праз часопісь „Шляхі калектывізацыі“.

## ХТО НАСТУПНЫ?

Кожны селькор павінен штодзённа праводзіць работу па распаўсюджваньню часопісі „Шляхі калектывізацыі“.

Кожны раён мае кантрольныя заданьні па распаўсюджваньню часопісі (гл. № 10 „Ш. К.“). Селькор павінен дамагацца выкананьня дадзеных заданьняў шляхам сыстэматычнай растлумачальнай работы сярод калгасьнікаў і беднякоў і серадзякоў-аднаасобнікаў.

**Селькор кавалёў Н. П.** распачаў ужо гэтую работу. Ён даў ужо шмат падпісчыкаў на часопісь і далейшую вярбоўку падпісчыкаў працягвае.

**Селькоры, хто наступны?**

---

# Усебеларускі зьезд калгасьніц перанесен з 20-га чэрвеня на восень гэтага году.

# 10 ліпеня Ўсебеларускі зьезд рабселькораў

Усебеларускі зьезд рабселькораў адкрываецца ў г. Менску 10-га ліпеня г. г. а 6 гадзіне ўвечары ў памяшканьні Вялікай залі Дому Камуністычнай Асьветы імя Карла Маркса (вул. Карла Маркса, д. № 30 (47).

Парадак дня зьезду.

1. Задачы друку ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі—дакладчык т. **К. В. Гей.**

2. Задачы рабселькораўскага руху, парткіраўніцтва ім і ўдарніцтва ў друку—дакладчыкі—**Будзінскі і Курцік.**

Апрача гэтага на зьезьдзе будуць працаваць наступныя сэкцыі па асобных галінах прамысловасьці і сельскай гаспадаркі: а) мэталяапрацоўчай прамысловасьці; б) торфаэнэргетыкі; в) чыгуначна-воднага транспарту; г) дрэваапрацоўчай прамысловасьці; д) па перабудове каапэрацыі; е) жывёласьвінагадоўчай сэкцыі; ж) ільнаводчых і тэхнічных культур; з) сэкцыя МТС; і) гарбарна-абутковай прамысловасьці; к) сэкцыя тэкстыльна-швэйнай прамысловасьці.

Работа ў сэкцыях будзе пабудавана наступным чынам:

1. Даклад рэдакцыі газэты, якая вядзе сэкцыю.

2. Судаклад гаспадарніка (заводу фабрыкі, саўгасу, калгасу, аб'яднаньняў) Вузлавыя задачы рабселькораў і нізавога друку.

3. Судаклад аднэй з шматтыражных фабрычна-заводзкай, саўгасна-калгаснай газэты—вопыт апэрацыйна-масавай работы шматтыражкі і рабселькораў у барацьбе за прамфінплян, за калектывізацыю і г. д.

Спрэчкі па дакладах і абгаварэньне тэзісаў (абавязкова па пунктах).

Дэлегаты на зьезд прыяжджаюць у Менск па атрыманьні асабістых паведамленьняў аргкамісіі, якія прад'яўляюцца пры атрыманьні мандатаў.

Дэлегаты звыш нормаў і без паведамленьня прымацца ня будуць.

# Кансультацыя па сіласаваньню

Пры Горацкай занальнай Станцыі Малочнай Гаспадаркі адкрыта кансультацыя па пытаньнях сіласаваньня. Саўгасы і калгасы, якія жадаюць атрымаць па пытаньнях сіласаваньня неабходныя ўказаньні, павінны зьвяртацца ў занальную станцыю. Вусна з 10-ці гадзін раніцы да 12-ці гадзін дню, а пісьмова па адрасу: Горкі, Станцыя Малочнай Гаспадаркі.

## ЗЬМЕСТ



Адказныя рэдактары: Міцькоў.
Н. Міхайлаў.

ЦАНА 15 кап.

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —



# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі"

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

**Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць**

**ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | — 24 нумары | 3 руб. | |
| „ 6 мес. | — 12 „ | 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 „ | — — | 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 „ | — — | 25 „ |

**Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу**

**Адрас рэдакцыі часопісу:**

***г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.***

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1283. 3.300 экз. Галоўлітбел № 432